# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
385 Alabama Ave, Apt. 17, Brooklin 7, New York, U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ | ЧАСАПІС БЕЛАРУСАУ У З. Г. А. | BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA | 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 6 (30) | 25. Сакавіка 1953 г. | NEW YORK, N. Y., U. S .A. | March 25, 1953 | Vol. IV. № 6 (30)


Я. Менскі.

## МОЦ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СЬВЕДАМАСЬЦІ

Бываюць падзеі ў гісторыі народу, у якіх нацыянальная мэтаімкнёнасьць і самасьцьверджаньне дасягаюць кульмінацыйнага пункту і ўжыцьцяўляюцца ў сваёй глыбіннай паўніні. Гэткія падзеі, як выражэньне сфармавасьці нацыі, выкрашталізаваньня нацыянальнае сьведамасьці народу ўздымаюцца над іншымі, прамянюючы сваё зыркае сьвятло ўжо на новы гістарычны шлях. У гэткіх падзеях патэнцыяльныя сілы нацыі пераростаюць у сілы творчыя й нацыянальнае самаўсьведамленьне ператвараецца ў нацыянальна-дзяржаўнае самасьцьверджаньне. Гэткія падзеі пачынаюць новую пару ў жыцьці народу. Ад іх бярэ пачатак новы лік часу. У жыцьці нашага народу гэткай падзеяй быў Акт 25 Сакавіка 1918 г.

У часе рэвалюцыйнага ўздыму, які праўраў сабе ход у 1917 г., беларуская нацыянальна-дзяржаўная думка за кароткі час прайшла шпаркі працэс свайго закончанага станаўленьня. Гэты працэс быў выражэньнем бурнага насьпяваньня падзеяў. Нацыянальна-рэвалюцыйны рух ператварыўся ў масавы. Найважнейшае тое, што гэты рух кансалідаваў, злучаў усе нацыянальныя сілы. Гэтак у працэсе нацыянальнае рэвалюцыі фармавалася нацыянальная сьведамасьць, няўпынна прастуючы да прагалошаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.

Акт 25-га Сакавіка зьявіўся вяршалінай нашай нацыянальнай рэвалюцыі. Таму ягоная ідэя зьяўляецца й да сяньня найвялікшым нацыянальна-рэвалюцыянізуючым фактарам, зьбіральнікам нацыянальных сілаў.

Адроджаная ідэя нашае дзяржаўнае незалежнасьці, якая па стагодзьдзях нацыянальнае ганьбы й паняволеньня зноў уладарна апанавала сьведамасьцяй нашага народу — стала нашай непераможнай духовай зброяй, нашай сілай. Гэтая ідэя, як сукрытае й глыбіннае пачуцьцё, прайшла ўжо апошнім часам праз дзясяткі гадоў найцяжэйшых выпрабаваньняў і ў гэтым ейная несьмяротнасьць. Гэтая ідэя была сьцягам у слуцкіх паўстанцаў. Яна з конавай моцай кіравала творчай працай беларусаў ужо ў савецкіх умовах, за якую людзі плацілі жыцьцём.

Ужо ад самага пачатку рэвалюцыі 1917 году былі выявіліся два процілежныя варожыя лягеры, зударыліся у сваім няпрымірымым змаганьні два розныя кірункі. Недалужныя выратавальнікі расейскае імпэрыі з Часовага ураду ператварыліся ў пыл разьвейны, не ўвайшоўшы ў смак свае ролі. Іх заступілі больш увіхлівыя бальшавікі, якія напісалі на сваіх сьцягох у прыдачу да сацыяльных лёзунгаў і зманлівыя нацыянальна-вызвольныя лёзунгі, якіх ня зьбіраліся выконваць. Інтэрнацыяналістыя у лёзунгах, яны былі нашчадкамі учарайшых рабаўласьнікаў. Зьмяніўшы вопратку, яны захавалі старую душу із спрадвечным расейскім імпэрыялізмам і гэта іх лучыла з учарайшымі валадарамі. Гэта быў працяг тае-ж лініі, па якой рэвалюцыя ў самым сваім зараджэньні ператваралася ў контр-рэвалюцыю, бо мела сваёй мэтай захаваць даўнейшую імпэрыю, зьмяніўшы адно шыльду на ёй.

Яшчэ на другім зьезьдзе РСДРП, у самым зараджэньні расейскага бальшавізму галоўны ягоны творца Ленін заявіў, што бальшавікі не дапусьцяць да „расчленения" Расеі. (гэтае, абраслае мохам дзесяцігодзьдзяў ленінскае — не дазволім „расчленять", злапыхнае адвечным расейскім шавінізмам, выцягнула сяньня зь нямяці сучасная расейская эміграцыя, ператварыўшы яго ў свой запраўдны сьцяг). Гэтым кіраваліся расейскія бальшавікі і ў рэвалюцыі 1917 году. Таму мэты тых, хто перахапіў уладу і мэты паняволеных расейцамі народаў, якія імкнулі да сваіх нацыянальна-дзяржаўных ідэалаў — разыходзіліся ўжо ад самага пачатку. На руінах расейскае імпэрыі паўсталі нацыянальныя дзяржавы, зь якімі ад першага дня новыя гаспадары былое царскае Расеі пачалі крывавае змаганьне. Гэта было змаганьне чырвоных расейскіх вялікадзяржаўнікаў з маладымі жыцьцяноснымі нацыянальнымі сіламі, змаганьне контр-рэвалюцыі з нацыянальнымі рэвалюцыямі. Тады контр-рэвалюцыя была збройна мацнейшая, таму яна перамагла рэвалюцыю, але не перамагла, ня ў стане была задушыць нацыянальна-рэвалюцыйных імкненьняў народаў.

Можна было расстрэльваць людзей — расстраляць тысячы, дзесяць тысячаў, сто тысячаў, але нельга было расстраляць нацыянальную самасьведамасьць у той усхваляваны й напорны час. Вось чаму на месцы пачатнай РСФСР паўстаў СССР, вось чаму на месцы зруйнаваных бальшавікамі народных незалежных рэспублікаў паўсталі не аўтаномныя вобласьці без нацыянальных адзнакаў, што было праграмай бальшавікоў, а паўсталі, няхай і савецкія, але рэспублікі. Каб утрымацца пры ўладзе, бальшавікі вымушаныя былі лічыцца з патрабаваньнямі народаў, вымушаныя былі адмовіцца ад свае канцэпцыі абласьніцтва ў нацыянальных справах, зь якой яны ўступілі ў 1917 год.

Гэтак сталася й на Беларусі. Было-б вельмі цікава прасачыць, як паўстала БССР, але гэта адмысловая тэма. Тут адно зацемім, што БССР была абвешчана ня ў дні кастрычніка. Тады беларусы абвесьцілі сваю БНР. Апынуўшыся перад дакананым фактам прагалошаньня Беларускай Незалежнай Дзяржавы, бальшавікі вымушаныя былі прыйсьці да абвешчаньня БССР.

Афіцыйная бальшавіцкая прапаганда, пачынаючы ад 30-х гадоў, калі Сталін ужо захапіў у свае рукі ўсю ўладу, пачала настырліва называць яго „творцам беларускай дзяржаўнасьці". Але беларусы ніколі не ўважалі Сталіна за свайго патрона, бо ягоныя дачыненьні да беларусаў на працягу ўсяго часу былі дачыненьнямі пагромшчыка. Сталін упяршыню працягнуў сваю руку на Беларусь у дні І-га Усебеларускага Кангрэсу. Тады Сталін, якога расейскія бальшавікі ўважалі за свой аўтарытэт у нацыянальных справах, узначальваў Камісарыят нацыянальнасьцяў. У гэты час і адбылося першае знаёмства беларусаў із „сталінскай нацыянальнай палітыкай". Бальшавікі мяркавалі выкарыстаць Кангрэс у сваіх мэтах і ў гэтым сэньсе надавалі яму асабліваe значаньне, бо яны здабылі-б найвялікшы козыр, калі-б Кангрэс, а праз яго й беларускі народ, стаў на шляху супрацоўніцтва зь імі. Сталін тады аддаў загад спалучыць тагачасную сядзібу бальшавіцкага ураду Петраград зь Менскам беспасярэднім тэлеграфным і тэлефонным провадам. Калі-ж надзеі бальшавікоў не спраўдзіліся і Усебеларускі Кангрэс абвесьціў БНР, г. зн. не адступіўся ад нацыянальных патрабаваньняў самога народу, тады бальшавікі, маючы ў сваіх руках збройную сілу, разагналі Кангрэс. Факты прамаўляюць за тое, што гэта было зроблена на загад Ста-

(Канец на 2 бач.)

## 1918 - 25 САКАВІК - 1953



## За Незалежную Бацькаушчыну!

А. Салавей.

### *КОНАДЗЕНЬ*

In hoc signo vinces
(Пад гэтым знакам пераможаш).

Над зямлёю зьбіраюцца хмары —
грымна ймкне навальніца.
Праз кілімы палёў, праз імшары
хуткі коньнік імчыцца.

Вось раскоцістым громам гуркоча
над прасторам жытнёвым.
Палымнеюць адвагаю вочы
пад шаломам сталёвым.

Разам з воем, у панцыр закутым, —
Моц і сіла ліхая.
На ягоным шчыце востракутым
крыж Ярылаў мігае.

Серабрыстая збруя, астрогі
сьвігавіцамі зьзяюць.
Меч у воя — і гойстры і срогі,
хмары ўзад адпаўзаюць.

Рвіся, коньнік, наперад ірвіся!
Над бацькоўскім парогам
Твая слава ўздымаецца ў высі
з крыжам, дадзеным Богам!

І з абвіслым крылом, пад зьнямогай
рыне ўніз навальніца.
Праз кілімы палёў з перамогай
хуткі коньнік імчыцца.

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ ў ЗША
шчыра вітае ўсю Беларускую Эміграцыю з нагоды

**ВЯЛІКАГА**
**БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА СЬВЯТА**

35-ГОДЗЬДЗЯ
АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ
НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ.
25 САКАВІКА 1918 ГОДУ.

Дай Божа, каб наш ідэал — Уваскрошаньне Нашае Бацькаўшчыны — як мага хутчэй зьдзейсьніўся й Беларускі Народ, які сяньня стогне ў ланцугох бальшавіцкае нявол **стаўся ВОЛЬНЫМ,** а мы, раскіданыя па сьвеце беларускія выгнаньнікі — **вярнуліся яшчэ ў НАШУЮ НЕЗАЛЕЖНУЮ БАЦЬКАУШЧЫНУ.**

Галоўная Управа БАЗА.

*Усіх суродзічау-беларусау вітаем*
***ЗЬ ВЯЛІКІМ САКАВІКОМ!***
*РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ „БЕЛАРУС"*

## КОН ГІСТОРЫІ

Беларуская эміграцыя ўсяго сьвету адзначае сёлета 35-ю гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Падлічаючы пры гэтай нагодзе ўсе здабычы і ўсе страты беларускага народу на гэтым 35-годнім шляху бязупыннага змаганьня за сваю волю, даходзім да выснаву, да ведамага гістарычнага закону: цьвёрдая народная воля свабоды непераможная, хоць яна й можа мець часовыя няўдачы ды апаразы, хоць яна й вымагае немалых, часам і мільённых ахвяраў.

На пачатку XX ст., пасьля вякоў няволі, здавалася ўсякія дзяржаўныя традыцыі ў народзе замерлі назаўсёды. І вось малая жменька наважных адраджэнцаў пачынае ў Вільні сваю нацыянальна-культурную працу. Палітыкі нашыя тады ня мелі адвагі нат гаварыць пра нацыянальна-дзяржаўную волю народу. Яны прыгадвалі адно пра нейкую „культурную аўтаномію". Пра жыцьцё „ў роўнай волі, роўным стане між усіх народаў", асьмельваліся лятуцець ды пісаць тады толькі народныя паэты-песьняры. Маўчалі пра яе нясьмелыя, асьцярожныя палітыкі.

Ды ўжо дзесяць гадоў пазьней у Менску ў выніку Усебеларускага Кангрэсу прадстаўнікі таго-ж народу граматаю 25 Сакавіка 1918 г. весьцяць народам Беларусі й усяго сьвету станаўкую волю Беларусі жыць вольным, незалежным жыцьцём. Гэта змушае Маскву дзевяць месяцаў пазьней, 1 студзеня 1919 г., у Смаленску абвесьціць таксама „незалежнасьць" сваёй Савецкай Беларускай Рэспублікі.

Ад гэтага мамэнту, калі й вораг прызнаў права беларускага народу на сваю дзяржаву, змаганьне вядзецца ўжо не за само існаваньне Беларускай Рэспублікі, але за тое, ці яна будзе народнаю, дэмакратычнаю, вольнаю, ці савецкаю, антынароднаю, залежнаю ад Масквы.

Як ведама, слабыя тады сілы БНР бой на сваёй зямлі прайгралі. Беларусь была занятая й падзеляная паміж двума дужымі суседзямі. Рада й Урад БНР, аднак, не спынілі свайго далейшага змаганьня як палітычна-дыпляматычнымі шляхамі на эміграцыі, так і сукрытаю вызваленчаю акцыяй на землях Усходняй і Заходняй Беларусі.

На абшары БССР далейшае змаганьне беларускага народу вялося за свае культурна-нацыянальныя правы ў рамках хаця-б і той-жа „савецкай" рэспублікі. Некаторыя дэмакратычныя свабоды, якія, як вынік слабасьці яшчэ маладога бальшавіцкага рэжыму, існавалі ў першым дзесяцігодзьдзі БССР, былі выкарыстаныя беларускімі актыўнымі палітычнымі кадрамі так шырака, як толькі было магчыма.

Імкненьне было яснае: каб савецкую, фікцыйна незалежную рэспубліку, нацыянальнымі сіламі народу ператварыць ад сярэдзіны ў запраўды беларускую ды дэмакратычную рэспубліку ў духу БНР. Новыя, з хутчынёй веснавой паводкі выраслыя сілы „нацыянал-дэмакратаў" заліваюць хутка ўсе дзялянкі дзяржаўна-культурнага жыцьця рэспублікі й надаюць чужым вонкавым формам савецкага ладу свой нацыянальны й дэмакратычны, беларускі зьмест.

Ды Масква схамянулася, у пару зацемліа пагрозу рэалізацыі Ленінскага клічу „самаазначэньня аж да аддзяленьня" й выдала безаглядны бой усім патрыятычна-актыўным сілам народу. Хвалі масавых „чыстак" ды крывавых ліквідацыяў ад „нацдэмаў" ішлі адна за другой і яны ня спыніліся й да сяньня.

Падзеі 2-гой сусьветнай вайны, міжнароднае палітычнае палажэньне ды палажэньне на землях Беларусі, змушаюць Маскву

## КОН ГІСТОРЫІ

пайсьці на новы палітычны крок: на ўвядзеньне БССР у новатвораную міжнародную арганізацыю Задзіночаных Народаў, як фармальна роўнапраўную рэспубліку з усімі іншымі запраўды вольнымі дзяржавамі сьвету.

Зроблены толькі з прапагандна-палітычных мяркаваньняў крок, у сваім выніку, змушае бальшавікоў зрабіць і крок другі: каб лепш маскаваць залежнасьць БССР ад Масквы, і лепш удаваць „незалежнасьць', у 1951 г. абвяшчаецца пастанова аб увядзеньні асобнага, адменнага дзяржаўнага сьцягу для БССР.

Далейшыя крокі й лягічныя выснавы робіць тымчасам і вольны сьвет: кангрэсмэны ды сэнатары ЗША дамагаюцца ад Масквы права на адкрыцьцё амэрыканскага дэмакратычнага прадстаўніцтва ў Менску ды прызнаньня яшчэ раз **дэ юрэ** права беларускага народу на сувэрэннае дзяржаўнае існаваньне, хоць гэтыя правы **дэ факто** сяньня й патаптаныя бальшавіцкаю Масквою.

Такі ланцуг прычынаў і фактаў нарадзіла 35 гадоў таму грамата 25 Сакавіка 1918 г., грамата аб стварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі — БНР — ды аб скіненьні беларускім народам „апошняга ярма дзяржаўнай залежнасьці".

З гэтага кароткага агляду мінулых 35 гадоў мы ясна бачым, што нягледзячы на перашкоды, праўда прабівае сабе дарогу ўсімі шляхамі й гістарычны ход падзеяў шпаркімі крокамі ідзе да свайго завяршэньня: да ня толькі ўжо фармальнага, але й фактычнага зьдзейсьненьня ідэі акту 25 Сакавіка — здабыцьця волі беларускаму народу.

Ясна, што на такі ход справы ня малы ўплыў мелі ды маюць упорыстая палітычна-дыпляматычная праца экзыльнае Рады БНР, ейнага Старшыні, ейнага Ураду.

Роля Рады БНР, а асабліва заданьні й абавязкі, і надалей нязвычайна вялікія, і з кажным годам узрастаюць, як расьце сьведамасьць ды папулярнасьць вызвольнага змаганьня беларускага народу ў міжнародным палітычным жыцьці.

Нарастае й сіла масавага змаганьня беларускага народу з акупантам на Бацькаўшчыне. Апошні довад гэтага тое, што сталінскую прэмію ў галіне літаратуры ў мінулым годзе атрымаў савецкі беларускі пісьменьнік Янка Брыль за аповесьць, у якой апісваецца бальшавіцкае змаганьне з беларускай партызанкай у паваенныя гады. Масква баіцца партызанаў Беларусі й не шкадуе грошаў на супроцьпартызанскую прапаганду.

Зацятае, нясупыннае змаганьне братоў на Радзіме ўскладае й на нас важкі абавязак: мацней задзіночыцца, падвоіць сваю актыўнасьць, пакласьці ўсе натугі на тое, каб прыход наканаванай ужо ходам гісторыі пары Вольнай Беларусі прысьпешыць настолькі, наколькі гэта ад беларускай эміграцыі залежыць.

**Б. Б-іч**

# Моц нацыянальнай сьведамасьці

(канец)

ліна. Але, разагнаўшы Кангрэс, бальшавікі былі бяссільныя запыніць пачатую ім справу. Нашая нацыянальная сьведамасьць сталася мацнейшая за бальшавіцкія кулямёты й бранявікі. Таму людзі й данесьлі народны ідэал да дзяржаўна-незалежніцкага акту.

У акупаванай праз бальшавікоў Беларусі ўсё жыцьцяздольнае, нацыянальна-актыўнае й чэснае, маладое й наважнае гуртавалася не пад бальшавіцкімі сьцягамі, а пад сьцягам нацыянальным, на якім было напісана — Беларусь і Незалежнасьць. Беларусы выкарыстоўвалі для нацыянальнага поступу навет бальшавіцкія лёзунгі.

Надыйшоў год „вялікага пералому". Некаранаваны чырвоны крамлёўскі манарх наважыў учыніць крывавую расправу над усімі нашымі нацыянальнымі здабыткамі. Чырвоныя наезьнікі пачалі бязьлітасна вынішчаць цьвет нашае нацыянальнае інтэлігенцыі. Тысячамі кідалі людзей у вастрогі ды высылалі на далёкую поўнач адно за тое, што людзі думалі інакш за бальшавікоў, што яны былі жывымі носьбітамі нацыянальнага гонару й сумленьня.

Першая хваля арыштаў пракацілася ў 1930 годзе. Бальшавікі наважылі былі змайстраваць судовы працэс над удзельнікамі г. зв. Саюзу Вызваленьня Беларусі. Паводле афіцыйнай дырэктывы з Масквы гэтую арганізацыю на судовым працэсе меў узначаліць Янка Купала. Бальшавікі разумелі, што Купала быў найбольш папулярным і улюбёным чалавекам на Беларусі. Гэта ён у часы нашай нацыянальнай рэвалюцыі заклікаў Беларусь „на ўсенародны, грозны, бурны сход". Судзіць Купалу азначала-б судзіць усю Беларусь. Арыштаваны Купала спрабаваў скончыць самагубствам праз гаракіры. Тады яго меў заступіць акадэмік Ігнатоўскі. Але й гэта не ўдалося бальшавікам, бо былы прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук перад самым арыштам запыніў сваё жыцьцё стрэлам. Ён заплаціў сваім жыцьцём, але не дазволіў чырвоным апрычнікам учыніць зьдзек над ягоным сумленьнем. Рыхтаваны працэс праваліўся.

Для змайстраваньня гэтага працэсу у Менск з ОГПУ быў прыехаў адмысловы пасланец — сьледчы ў асабліва важных справах Аргаў. Адзін з арыштаваных у той час нядаўна расказаў аўтару гэтых радкоў пра характэрны выпадак. Аднойчы Аргаў на допыце зьвінавачанаму у дзяржаўнай зрадзе паэту, калі той ня прызнаваў сябе за вінаватага ды абураўся прыпісванымі яму злачынамі, цынічна сказаў:

— А ці ня ўсё адно, вінаватыя вы ці не? Мы вам не давераем і ўжо гэтага даволі, каб вас арыштаваць ды выслаць. Беларусы занадта разагналіся. Вось Сталін, як мудры садоўнік, які абразае занадта разрослае дрэва, наважыў і вас падстрыгчы. Навошта вам мець, напрыклад, аж тры вялікія мастацкія часапісы? Хопіць з вас і аднаго.

Гэтыя словы могуць быць найлепшай ілюстрацыяй сьмяротнай Сталінавай апекі ня толькі ў дачыненьні да беларусаў, але й да украінцаў, да народаў Каўказу ды да іншых „нацыяналаў", якіх праз дзясяткі гадоў падстрыгаюць, стрыгуць і раўнуюць на вялікадзяржаўны маскоўскі ўзор, паслугоўваючыся для гэтага найстрашнейшым тэрорам. Прапагандовы росквіт нацыянальных культураў пад „сталінскім сонцам" быў ня вельмі рамантычнай зьявай, бо вартавала яго бальшавіцкая патайная паліцыя й на першы сыгнал бязлітасна абцінала яго, пазбаўляючы людзей жыцьця.

З санкцыі Сталіна пачалася паласа чорных гадоў апусташальнага нацыянальнага перасьледу. Сталін узаконіў гэтую расправу, назваўшы з трыбуны партыйнага зьезду „нацыянальны мясцовы ўхіл" дзяржаўнай небясьпекай. Сталіну належыць бацькоўства ў нараджэньні „старэйшага брата", у вобразе якога быў заклікаты й паўстаў да жыцьця ваяўнічы расейскі шавінізм, які ўжо аддаўна выдаецца за найвышэйшую маральную дабраароднасьць для ўсіх „малодшых братоў", каб вынішчыць іхны собскі нацыянальны гонар, каб узгадаваць у іх сьведамасьць нявольніцкай ніжэйшасьці. Нечакана гітлераўскі расізм перахапілі, як сваю найноўшую зброю, расейскія нацыянал-бальшавікі.

Вось як выглядае „творца беларускай дзяржаўнасьці", на сумленьні якога жывая беларуская кроў мільёнаў закатаваных ім ахвяраў.

Але над нацыянальнай сьведамасьцяй няўладныя ніякія дыктатары. Народ можна тэрарызаваць, запалохаць, навет прымусіць маўчаць, але нельга прымусіць ня думаць. Думку можна загнаць у падзямельле, але яе нельга ўсьмерціць. Надыйдзе часіна й загнаная ў падзямельле сьведамасьць выбухне наўзьверх ды ў гневе раскаваных сілаў ужыцьцёвіцца нацыянальная мара-ідэал. І калі наш народ праз гады жахлівага тэрору, праз нясьціханна пагромныя бальшавіцкія вокрыкі да змаганьня „з буржуазным нацыяналізмам" мае змогу несьці й нясе сваю жывую беларускасьць, дык гэта найвышэйшае сьветчаньне ягонай глыбокай нацыянальнай самасьведамасьці.

Сталін адыйшоў у нябыт. Ягонае месца заступіў іншы дыктатар з чэкістоўскім узгадаваньнем. Вакол яго стаяць найбольш агрэсыўныя элемэнты. Для нашага краю гэта не абяцае нічога добрага. Пэўна адно, што русыфікацыя набярэ яшчэ большага разгону. Але мы верым у вытрываласьць нашага народу. Яго ня зглядзіла царская русыфікацыя, суправаджаная шыбеніцамі й заборонай усяго беларускага. Нацыянальная самасьведамасьць нашага народу прайшла страшэнныя выпрабаваньні ды заплаціла за сваё самазахаваньне нязьлічонымі жыцьцямі лепшых сваіх носьбітаў. Таму ня зглядзіць Беларусі й бальшавіцкая русыфікацыя. Беларускі народ жыве вялікай ненавісьцяй да сваіх прыгнятальнікаў і вялікай любасьцяй да свайго спрадвечнага краю. Гэтая вялікая нянавісьць да ворага й высокая нязгаслая любасьць да Бацькаўшчыны жыве і ў сэрцах беларускіх выгнаньнікаў.

У кажную нацыянальную гадавіну, ці то з прычыны гістарычнае грамадзкае падзеі, ці то ў дзень угодкаў нашых дзеячоў — нашыя позіркі, пачуцьці й думкі бягуць туды, дзе народ наш, які нарадзіў і ўзгадаваў нас, дзе Бацькаўшчына нашая, якая заклікае нас да еднасьці, да гартаваньня й зьберажэньня сілаў нашых, каб у часіну паклікаsuccessfully spaлучыць іх зь сіламі ўсяго народу, быць зь ім у мамэнт вырашальнага змаганьня за нацыянальную свабоду.

У гэтым і толькі у гэтым сэнс нашага жыцьця.

### АД СТАЛІНА ДА МАЛЕНКОВА

**(19 Зьезд Камуністычнае Партыі і сьмерць Сталіна)**

Нас просяць паведаміць, што пад гэткім назовам 20, 21 й 22 сакавіка адбудзецца канфэрэнцыя, у якой возьмуць удзел 24 вядучыя амэрыканскія спэцыялістыя і эміграцыйныя знаўцы савецкіх справаў. Месца канфэрэнцыі — „Дом Свабоды" 20 Вест 40 вул. На канфэрэнцыю запрошаныя госьці з Гарвардзкага, Калюмбійскага, Фордгамскага, Ельскага, Прынстонскага. й Вашынгтонскага Унівэрсытэтаў, як і сябры дыпляматычнае й замежнае службы.

Сярод вядучых амэрыканскіх спэцыялістых, якія бяруць удзел у канфэрэнцыі — праф. Ельскага Унівэрсытэту Фр. Бэргурн, аўтар кніжок аб Савецкім Саюзе, Б. Вольф, кіраўнік ідэалягічнага аддзелу „Голасу Амэрыкі", аўтар кнігі „Тры творцы рэвалюцыі", Ал. Гэршэнкрон — праф. Гарвардскага універсытэту, М. Карповіч, кіраўнік Славянскага Аддзелу гэтага-ж унівэрсытэту й Філіп Мосьлі, дырэктар Расейскага Інстытуту Калюмбійскага Унівэрсытэту й старшыня Усходня-Эўрапэйскага Фонду

Апрача іх, у канфэрэнцыі бяруць удзел б. прафэсары Савецкіх Унівэрсытэтаў і сябры Акадэміяў СССР., а таксама б. савецкія эканамістыя, вайскоўцы й культурныя працаўнікі.

Канфэрэнцыя будзе весьціся парасейску.

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА

**25 сакавіка прыпадаюць 35-тыя угодкі Вялікага Беларускага Нацыянальнага Сьвята**

## ДНЯ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

## Беларускай Народнай Рэспублікі

Як і ў мінулым годзе, гэтак і сёлета, урачыстае сьяткаваньне 25 Сакавіка ў Нью-Ёрку ладзіць Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА).

25 сакавіка прыпадае сёлета у аўторак, калі ўсе працуюць, і таму сьвяткаваньне пераносіцца на **НЯДЗЕЛЮ 29-га САКАВІКА.**

Праграма сьвяткаваньня гэткая:

**10 гадз. раніцы — Урачыстая Божая Служба,** у Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве (345 Іст, 4-ая вуліца, між Эвэню С і Д ў Нью-Ёрку), адслужаная Яго Прэасьвяшчэнствам Япіскапам БАПЦ Ул. Васілём.

**3 гадз. папаўдні — Урачыстая Акадэмія** з канцэртам, якая адбудзецца ў залі Бэтховэн Гол, 210-14 Іст, 5-ая вуліца у Нью-Ёрку (між 3 і 2 Эвеню).

Галоўная Управа БАЗА запрашае беларусаў Нью-Ёрку й ваколіцы ушанаваць сваёй прысутнасьцяй згаданую найвялікшую нашую ўрачыстасьць.

Асобныя запросіны высылацца ня будуць.

Галоўная Управа БАЗА.

# Змагары за нашу долю

Сакавік, — месяц, калі шматгадовыя лятуценьні беларускіх змагароў за долю й волю Бацькаўшчыны нарэшце ўцелавіліся ў Акце 25-га Сакавіка 1918 году, — адначасна й месяц жалобы для ўсяго беларускага народу.

У сакавіку-ж якраз згінула, памерла столькі нашых змагароў, столькі вялікіх сыноў Беларусі! У сакавіку памёр на шыбеніцы палыменны народны герой, незабыўны Кастусь Каліноўскі, кінуўшы ў апошнюю сваю ноч на зямлі запавет, мацнейшы за сьмерць: „Вауй-жа, народзе, за сваё чалавечае й народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную! У сакавіку памерлі й два нашыя найвышэйшыя прадстаўнікі — Старшыні Рады БНР Пётра Крэчэўскі й Васіль Захарка. А кагадзе сумная вестка з Лювэну абвесьціла ўсёй эміграцыі, што памёр яшчэ адзін ціхі, няпрыкметны, але нястомны беларускі змагар-працаўнік кампазытар Мікола Равенскі.

І П. Крэчэўскі й В. Захарка нарадзіліся былі яшчэ ў XIX стагодзьдзі. Абодвы прайшлі цяжкі й даўгі жыцьцёвы шлях, упорыстай працай здабылі асьвету, мусілі шмат паслужыць чужым, як урадаўцы й вайскоўцы, ды знайшлі ў сабе нявычэрпную крыніцу сілы й натхненьня, каб пры першай-жа нагодзе стаць на службу роднаму народу й Бацькаўшчаньне-Беларусі, сягнуўшы у рэшце-рэштаў найвышэйшых становішчаў.

Усё змаганьне за права на самастойна жыцьцё нашае Радзімы, важкія ў падзеі 1917-1918 гады, абвешчаньне Беларусі Незалежнай Народнай Рэспублікай, пазьнейшае ходаньне у Ейнай абароне, усе гэтыя гістарычныя дзеі ды чыны цесна, непарыўна зьвязаныя з імёнамі П. Крэчэўскага й В. Захаркі.

Калі мірныя перамовы паміж бальшавікамі й немцамі ў Берасьці скончыліся нічым, нямецкае войска пайшло на ўсход. Не чакаючы немцаў, загадзя пайшлі на ўсход і бальшавікі, пядзь па пядзі пакідаючы беларускія землі. 19-га лютага 1918 году яны ачысьцілі Менск і ўсю ўладу ў месьце й акрузе пераняў Выканальны Камітэт Усебеларускага Зьезду. Два дні пазьней ён абвесьціў сябе найвышэйшай уладай на Беларусі й зьвярнуўся да жыхарства з г. зв. Першай Устаўной Граматай, якая пачыналася словамі:

— „Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, — няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс у собскія рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне..."

Месяц пазьней, актам 25-га сакавіка 1918 году Беларусь была абвешчана Незалежнай Народнай Рэспублікай.

Аднымі з творцаў гэтага Акту, першымі сябрамі Рады і Ураду маладое БНР і пазьнейшымі нястомнымі змагарамі ў абароне Ейнае незалежнасьці былі Пётра Крэчэўскі й Васіль Захарка.

Імёны іхныя ў гэтыя змагарныя гады мы сустракаем скрозь.

Васіль Захарка меў у ўсіх габінэтах Ураду розныя міністэрскія партфэлі й дэлегаваўся на найбольш адказныя й далікатныя становішчы. Тое самае датычыцца й Пётры Крэчэўскага. Калі-ж 13-га сьнежня 1919 году на сходзе ў Юбілейным Доме ў Менску аднагалосна быў выбраны новы Прэзыдыюм Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, — Старшынёю Рады быў выбраны П. Крэчэўскі, які й заставаўся на гэтым найвышэйшым становішчы аж да свае сьмерці.

Адначасна, Рада і Урад БНР пацьвердзілі важнасьць Акту 25-га Сакавіка 1918 г. й вынясьлі пратэст проці незаконнага гаспадараньня акупантаў у Беларусі. Гэтым яны выклікалі жорсткі перасьлед з боку тагачаснага панявольніка нашых земляў — палякаў, якія ў адказ абвесьцілі, што не прызнаюць Рады БНР. У довад гэтага колькі сяброў ейнага Прэзыдыюму, на чале з В. Ластоўскім былі арыштаваныя.

Спадзяючыся таго самага й для рэшты беларускіх міністраў і дзеячоў-незалалежнікаў, пачалі рабіцца намаганьні неафіцыйна вывезьці Раду і Урад БНР за межы, дзе яны маглі-б ізноў згуртавацца й праводзіць сваю адказную працу, змагаючыся за ідэі 25-га Сакавіка.

Рыскі Трактат і падзел Беларусі паміж двума акупантамі канчальна спыніў дзейнасьць Рады БНР і Беларускага Ураду. Выехаўшы на эміграцыю ў Летувіскую Коўню, яны дзеялі ўжо адно дыпляматычным шляхам, бароначы Беларусь і беларускі народ ад наступу чужынцаў, зьвяртаючыся да ўсіх „магутнейшых сьвету гэтага" з нязьлічанымі мэмар'яламі, выяжджаючы на канфэрэнцыі, перамовы у розныя краіны, ці на захадзе, ці ўсходзе.

Гэтак, 2-га чырвеня 1920 году, калі бальшавікі выявілі згоду пачаць перамовы з Урадам БНР, В. Захарка быў вызначаны Урадам за старшыню Надзвычайнай Беларускай Дыпляматычнай Місіі. Аднак, як і трэба было спадзявацца, дагаварыцца з бальшавікамі было немагчыма й Захарка неўзабаве, вяртаецца з Масквы. Ён і далей працуе й змагаецца раз там, раз сям, трапляе ў польскі вастрог, уцякае зь яго й варочаецца у Коўню.

Тутка, між іншага, у 1923 годзе адбылася апошняя рэарганізацыя Ураду БНР, у якім абавязкі міністра фінансаў выконваў В. Захарка. Неўзабаве Рада і Урад БНР, з Захаркам і Крэчэўскім на чале, пакідаюць гасьцінную Коўню і пераяжджаюць у чэскую Прагу.

Прага й наагул Чэхія былі першымі найбольшымі цэнтрамі нашае палітычнае эміграцыі. Тут знайшлі былі прытулак і беларускія палітычныя эміграны, і сябры беларускага Ураду, і слуцкія паўстанцы й беларуская моладзь, што прыяжджала сюды здабываць вышэйшую асьвету.

Ад 1923 году гэтта назаўсёды асяліліся й Старшыня Рады БНР Пётра Крэчэўскі й ягоны заступнік ад даўгіх год Васіль Захарка.

Нястомна працавалі абодвы й тут. Між іншага, у 1924 годзе Старшыня Рады БНР Крэчэўскі выслаў быў з Прагі ў Лігу На-

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# Мікола Равенскі

У панядзелак 9-га сакавіка з Лювэну ў Бэльгіі прыйшла да нас цяжкая, балючая вестка аб сьмерці нашага знанага музыкі-кампазытара Міколы Равенскага. Глыбокі жаль, побач зь вялікаю пашанаю да памяці дастойнага нябожчыка агарнулі ўсіх ягоных сяброў і знаёмых, разлучаных із ім у апошнія гады эміграцкаю доляю.

Тым глыбей шкада передчасна памерлага Міколу Равенскага, што доля ягоная была для яго напрацягу блізу ўсяго ягонага жыцьця пераважна мачыхаю й ён пазнаў мала радасьці, ды затое меў удосыць бяды й клопатаў.

Сьпярша, лёс быў нібы лсакавы да беларускага хлапца, надзяліў яго музычнымі здольнасьцямі, а пазьней даў яму няштодзённую магчымасьць атрымаць паважную агульную адукацыю й добрую музычна-тэарэтычную падрыхтоўку, надзячы абяцанкаю шырокіх шляхоў ды ўдачы... Вось гэтыя свае здольнасьці й веду Мікола Равенскі і аддаў бяз рэшты служэньню нацыянальнай беларускай справе, яшчэ зусім маладым хлапцом уваходзячы ў кола людзей, для якіх, як і для яго, справы Бацькаўшчыны былі найбольшаю, асноўнаю мэтаю жыцьця. Ён працуе і як дырыгент (Менскі Работніцкі клюб і Гарадзкі Тэатар), і як этнограф (Інстытут Беларускае Культуры), як настаўнік і выкладчык (Менскі Музычны Тэхнікум, а пазьней Менская Кансэрваторыя) і як музычны крытык (часапіс „Узвышша"). Побач з гэтаю працаю на культурнай ніве Бацькаўшчыны-Беларусі, пачынае Мікола Равенскі й свой аснаўны, кампазытарскі, творчы шлях, апрацоўвае беларускія песьні, піша музыку да п'есаў Дуніна-Марцінкевіча („Залёты"), песьні й рамансы на словы паэтаў-узвышэнцаў, працуе з паэтам Ул. Дубоўкай над стварэньнем беларускае опэры „Браніслава" (урывак зь якое, цудоўную „Арыю Браніславы" нашае беларускае грамадзтва ці раз мела нагоду чуць у канцэртах мінулых год), ды інш.

Але разгром бальшавікамі беларускае нацыянальнае культуры ў 1931-32 гадох і безагляднае вынішчэньне небясьпечных для іх беларускіх культурных сілаў, зачапляе й Міколу Равенскага і, хоць і пакідае яго на волі, але з нязмывальным таўром „нацдэма". „Ліпнёвы гімн", які М. Равенскі напісаў на словы Ул. Дубоўкі робіцца якраз тым „ярлыком", што вешаюць на Равенскага партыйныя ўлады й як на грамадзяніна і як на творчага працаўніка. У спакайнейшыя гады яго яшчэ „цярпелі", але як толькі партыйная лінія пачынала хінуцца у бок вастрэйшае партыйнае „пільнасьці" — новая няпэўнасьць ставалася штодзённым хлебам М. Равенскага. Асабліва пагрозьлівымі й пакутлівамі былі для яго дні пагрому беларускае культуры ў 1937 годзе, калі ён літаральна „трымаўся на валаску", чакаючы кажнае часіны, што вось, вось лязо партыйнае сякеры апусьціцца й на ягоную галаву.

Як-жа перажываў усе гэтыя жудасьці Мікола Равенскі? Мусіць, вялікая вера ў непазьбеглае, кончае нацыянальнае адраджэньне роднае Беларусі дапамагла яму ператрываць усе цяжкія ўдары лёсу, якія выпалі на ягоную долю. Бясспрэчна, была яму ў гэтым вялікаю дапамогаю й я-



Сьв. п. Камп. М. Равенскі

гоная нязвычайная працаздольнасьць. Дзіву даешся, што М. Равенскі мог ня толькі ўсе згаданыя жахлівыя гады працаваць у розных установах, але й працягваць творчую кампазытарскую працу аж да стварэньня буйных музычных рэчаў (струнны смычковы квартэт, пачатак працы над сымфоніяй на беларускія тэмы). Відаць, якраз музыка, што жыла ў ягонай душы й прасілася на паперу, падтрымлівала ягоны дух, не давала М. Равенскаму заламацца, а гэтым самым і загінуць.

Аж па берагі налітае музыкаю сэрца М. Равенскага не адолелі ні перасьледы, ні пагромы, ні „чысткі". А што яшчэ дзіўней — творы кампазытара прабіваліся праз усе партыйныя запоны ды забароны й даходзілі да шырокае беларускае масы, а імя Равенскага было ведамае ўсёй Беларусі, як імя аднаго з найбольш папулярных беларускіх музыкаў.

Вырваўшыся з пад бальшавіцкага абуха, трапіўшы на эміграцыю, Мікола Равенскі таксама зазнаў ня шмат радасьці. Але і ў зусім няспрыяльных для творчасьці лягерных умовахМ. Равенскі быў і гэтта заўседы бадзёры духам і няўтомна працаваў як кампазытар і як арганізатар, як рэгент царкоўнага й народнага хору і як выкладчык (у беларускай гімназіі імя Я. Купалы). Калі ня зойдзеш, бывала, да яго, — ён сядзіць у паўцёмным бараку ці цесным пакойчыку пры стале і ўсё піша, піша... Тут, у лягерох Нямеччыны былі якраз створаны нябожчыкам адны зь лепшых ягоных твораў — „Беларуская Фантазія" для скрыпкі з фартап'яна, раманс „Ноч над Менскам" на словы Дубоўкі, царкоўны гімн „Магутны Божа" на словы Н. Арсеньневай і гэткія ведамыя апрацоўкі песьняў, як: „Хмель лугамі", „І туды гара", „Халімон" ды інш.

З пераездам у Бэльгію ў асяродзьзе беларускае студэнцкае моладзі, якую М. Равенскі гэтак любіў, жыцьцё мастака, нібы, асьвяцілася было ясьнейшым праменчыкам так рэдка бачанага сонца. Тут ён знайшоў і няддрэнныя жыцьцёвыя ўмовы і, што найгалоўнейшае, вельмі спрыяльную для выканаўчае ды творчае працы атмасфэру, якое ён, можа, ніколі ня ведаў у сваім гаротным жыцьці. Арганізаваны ім беларускі студэнцкі вакальны ансамбль, выступы зь ім у Бэльгіі ды Францыі, насьпяваньне беларускіх грамафонных пліткаў, кампазытарская праца дзеля стварэньня царкоўнага й народнага рэпэртуару — усё гэта было нечаканасьцяй, вельмі мілай і радаснай сэрцу Равенскага. Але, як хутка выявілася, гэта быў адно апошні кароткі этап-адпачынак перад безпаваротнаю ужо дарогаю. Неўзабаве лёс пасылае яму цяжкую й пакутлівую хваробу (рак лімфатычнае сыстэмы), якая й спрычынілася кагадзе да ягонае сьмерці на 67 годзе жыцьця.

Мікола Равенскі быў высокаідэйным, шчырым, чэсным, добрым, на зьдзіў лагодным, ветлым, ціхім, і пры ўсіх сваіх здольнасьцях ды ведах, надзвычай сьціплым чалавекам. Як сябра, ён быў асабліва сардэчны, гатовы падзяліцца апошнім.

Таму мо' гэтак баліць сьведамасьць, што такому чалавеку не пашчасьціла ні ў каханьні, ні ў сямейным жыцьці, ні ў працы — большую частку свайго жыцьця ён пражыў адзінокім бабылём. Ды сам ён, калі й перажываў балюча ўсе гэтыя свае няўдачы, ніколі гэтага навонкі ня зраджваў, ня хіліў галавы, а часта з гумарам і сам жартаваў із сваіх няўдачаў.

Умовы жыцьця й працы не далі М. Равенскаму магчымасьці поўнасьцяй разгарнуцца, паказаць свае здольнасьці у ўсіх галінах творчасьці, але ёсьць адна зь іх, дзе імя Равенскага сталася фундамэнтальным і асабліва знаным ды каштоўным — гэта **галіна высокае, натхнёнае й няспынная працы над беларускім песенным фальклёрам,** якой нябожчык запраўды аддаў усю сваю душу. З усіх беларускіх аўтараў ён быў у гэтай галіне найбольш ведамы. Калі Ул. Тэраўскага можна лічыць аснавапаложнікам беларускае нацыянальнае музычнае плыні, дык Равенскі быў тым, хто ўзьняў беларускі фальклёр на запраўдныя ўзвышшы навуковае думкі. Гэткія навуковыя установы, як Інстытут Беларускае Культуры, Акадэмія Навук Беларусі і Беларуская Кансэрваторыя абавязаныя Равенскаму шмат якімі арганізацыйнымі й практычнымі мерапрыемствамі ў галіне стварэньне аддзелаў і сэкцыяў беларускага песеннага фальклёру, зьбіраньні народных песьняў, матар'ялаў ды інш. Як музычны кіраўнік і дырыгент, М. Равенскі арганізаваў і наведваў шмат самадзейных і аматорскіх гурткоў, скрозь насаджаючы беларускую песьню. Як кампазытар, М. Равенскі таксама моцна трымаецца беларускае песьні, гэтае нявычэрпнае крыніцы народнага хараства, і навет ягоныя арыгінальныя рэчы захоўваюць гэты народны калярыт.

Ёсьць і яшчэ адна паважная галіна дзейнасьці й творчасьці М. Равенскага — гэта царкоўная музыка, дзе ён дасягнуў вялікіх удачаў як кампазытар (харавыя творы з Літургіі ды Усяночнай) і як рэгент.

Як бы спалучэньнем гэтых дзьвух галінаў зьяўляецца згаданы ужо твор „Магутны Божа", які яшчэ пры жыцьці стаўся у беларускіх сэрцах помнікам аўтару.

Із сьмерцяй Равенскага з асяродзьзя беларускіх творчых працаўнікоў адыйшоў выдатны музычны й нацыянальны дзеяч: кампазытар, этнограф, пэдагог, музычны крытык і дырыгент. Сьмерць М. Равенскага адчуваецца асабліва балюча тутка, на эміграцыі, дзе апынулася адно невялікая жменька запраўдных мастакоў.

А на ўзьверх — мы страцілі шчырага, адданага беларускага патрыёта, тыя-ж, што ведалі яго бліжэй — і сардэчнага й мілага сябру.

Адна пацеха — што засталіся, жывуць і будуць жыць, хоць творца іхны і адыйшоў у нязнаную дарогу, песьні, напісаныя нябожчыкам. Яны яшчэ доўга будуць славіць ягонае імя, сьветчыць аб ягоным таленце і простым ды шчырым беларускім сэрцы.

М. К.

## Ануліраваньне таемных угодаў

На паседжаньні Камісіі Замежных Спраў Кангрэсу ЗША, міністар Д. Ф. Далес запрапанаваў пакласьці ў аснову ануляваньня таемных угодаў наступныя тры пункты:

**1.** ЗША ніколі не пагодзяцца з перакручаньнем савецкім урадам гэтых угодаў і пературэнянем іх у кайданы няволі. Амэрыканскі народ ніколі ня меў гэткіх намераў.

**2.** ЗША ніколі ня згодзяцца на гэткі „гандаль", які вядзе да замацаваньня савецкага дэспатызму ў дачыненьні да народаў, паняволеных СССР і ў Эўропе і ў Азіі.

**3.** ЗША лічаць аднэю з сваіх мэтаў вызваленьне ўсіх паняволеных народаў у Эўропе й Азіі, каб яны маглі вярнуць сваю незалежнасьць.

Гэтыя тры пункты, заявіў Далес, будуць „першым неабходным крокам да памацненьня духу свабоды".

— „Наш сьцяг узьняты — сказаў ён — і сяньняшняя адміністрацыя ніколі не дазволіць яго апусьціць".

П. Вішнеўскі

# Амэрыка й беларусы

(заканчэньне)

З усяго гэтаго выходзіць, што лёзунг „змаганьня супраць бальшавізму" далёкі ад таго, каб быць самазразумелым і непахісна пэўным у сваіх заложаньнях. Калі-ж увайсьці ў дэталі і зважыць усё тое, на што разьлічвае Масква ў сваёй нутраной і вонкавай палітыцы, а што нейкім дзіўным чынам упарта „упускается из виду" Амэрыканскім Камітэтам і ягонымі „советниками", дык лёзунг гэты дужа камплікуецца. Мы гэтым ня маем намеру паніжаць ягонай важнасьці й значаньня, адно рашуча акцэнтуем факт, што гэнае запраўднае ягонае значаньне ніяк не пакрываецца з тым, якое прыпісвае яму Амэрыканскі Камітэт, калі стаіць на прынцыпе прымусовай і штучнай сэпарацыі паміж бальшавізмам і расейскім імпэрыялізмам. А тымчасам сквітаваць з гэтага прынцыпу азначае ня менш, ня-больш, як зрабіць ідэю змаганьня з бальшавізмам лягічна яснай і пасьлядоўнай, этычна вытрыманай і сугучнай з традыцыямі свабодалюбнай Амэрыкі.

Цікава, што фактычна толькі для народаў паняволеных лёзунг змаганьня з бальшавізмам мае сваё поўнае і бясспрэчнае значаньне. Возьмем дзеля прыкладу беларусаў: зьнішчэньне бальшавіцкага рэжыму на нашых землях і ўстанаўленьне нанова дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі, у вялікай меры раўназначнае з выгнаньнем з Беларусі чужацкіх наплывовых элемэнтаў (ды паваротам беларускіх сялянаў, работнікаў і інтэлігенцыі на сваю зямлю), на якіх абапіраецца сяньняшні рэжым. Гэтак ёсьць на Украіне, у Прыбалтыцы, на Каўказе й г. д.

Другой супярэчнасьцяй у акцыі Амэрыканскага Камітэту ёсьць прынцып расейскае гегемоніі ў будучым антыбальшавіцкім цэнтры. Яно выглядала-б, што нельга пачаць вызваленьня, пакуль ня будзе запэўненая новая форма паняволеньня. Якія-б мэты не хаваліся за гэтымі сумлеўнае вартасьці ходамі, — усе яны вядуць да абсурду, навет калі прыняць, што справа не датычыць прынцыпаў, а бярэцца толькі ў вузкім абсягу будучага цэнтру. На нашую думку, у такім цэнтры можа быць месца на абсалютную перавагу толькі аднаго дзейніка — амэрыканцаў. На такую гегемонію усе пагодзяцца, бо яе ніхто не баіцца, як вынікае з папярэдніх часткаў гэтага артыкулу. Чаму-ж Амэрыканскі Камітэт ня йдзе гэтай простай і яснай сьцежкай, а ставіць гэтую пільную й важную справу ў залежнасьць ад капрысаў расейскіх „дэмакратаў" — гэта загадка. Ня будзем рабіць згадкаў пра ейную разгадку. Нашыя сумныя дазнаньні на працягу даўгіх год і тыя нязьлічаныя дзясяткі й сотні тысяч людзкіх ахвяраў, што ляглі за нашую праўду й свабоду, як і тыя мільёны, што пакутуюць сяньня пад маскоўска-бальшавіцкім прыгнётам — не дазваляюць нам паверыць, што адна зьмена пагоды на Крамлі можа значыць для нас вызваленьне. Не паверым мы й ніякім салодкім абяцанкам з боку расейскіх „дэмакратаў", якія лічаць, што неабходнай і дастатковай перадумовай ашчасьліўленьня сьвету ёсьць ушанаваньне недатыкальнасьці „Расеі-матушкі". Наш пагляд зусім процілежны гэтаму: Мы ўважаем, што прыйшоў ужо час, каб Расея-мачыха вярнула народам заграбленую волю й зямлю — гэта й ёсьць неабходная і дастатковая ўмова дзеля трывалае стабілізацыі суадносінаў на эўрапэйска-азіятыцкім кантынэнце.

Нам закідаюць, што мы антыфэдэралісты. Гэта няправільны й несправядлівы закід, бо кажны палітычна пісьменны беларус ведае, што як доўга існуюць у Эўропе вялікія незбалянсаваныя сілы, гэтак доўга будзе там панаваць стан непакою й няпэўнасьці, у якім ня будзе ніякіх гарантыяў незалежнага існаваньня Беларусі. Усё-ж адну форму фэдэрацыі мы вылучаем, як немагчымую — фэдэрацыю пад эгідай ці панаваньнем Масквы. У дабраахвотнай фэдэрацыі з Масквой мы ніколі ня зьбіраліся быць, а прымусовае маем, запраўды, ўжо даволі. Мы належым да Эўропы й таму мы ўсёй душой за Эўрапэйскую фэдэрацыю, як за сродак забясьпечаньня сябе ад няпрошаных апякуноў. Маем надзею, што Амэрыканскі Камітэт нас у гэтай справе разумее й нам спачувае.

(Канец)

цыяў мэмарандум, у якім было прадстаўленае тагачаснае жудаснае палажэньне безаглядна перарэзанае на дзьве часткі Беларусі, перасьлед беларускага руху па абодвух баках гэтае бязпрыкладнае мяжы і польскімі й бальшавіцкімі акупантамі, і дамагалася дапамагчы заладзіць беларускае пытаньне справядлівым спосабам — цалкам унезалежніць беларускія землі і ад палякаў і ад бальшавікоў.

А ў 1926 годзе П. Крэчэўскі выдаў быў у Празе вельмі цікавы зборнік артыкулаў і дакумантаў „Замежная Беларусь". Наагул, Пётра Крэчэўскі карыстаў з кажнае нагоды, каб далей разьвіваць ідэю незалежнасьці Беларусі і, будучы найвышэйшым прадстаўніком беларускага народу, дастойна, як і належылася, прадстаўляў яго аж да самае сьмерці 8-га сакавіка 1928 году.

Становішча Прэзыдэнта Беларускае Народнае Рэспублікі пераймае па ім ягоны заступнік Васіль Захарка.

Год пераняцьця В. Захаркам гэтае найвышэйшае і найадказьнейшае пасады быў годам вельмі крытычным, як у жыцьці нашае эміграцыі, гэтак і ў нашым вызвольным змаганьні наагул. У гэтым годзе Чэхаславацкі ўрад прызнаў быў СССР, навязаў зь ім дыпляматычныя дачыненьні і ў выніку гэтага мусіў спыніць іх з эміграцыйным урадам БНР, які дагэтуль прызнаваўся Чэхаславаччынай „de jure".

Але гэта не запыняе ў працы новага Старшыню Рады БНР. В. Захарка перяжджае ў сьціплы дамок у ваколіцах Прагі і працягвае гэтта сваю ціхую працу, станоўка адкідаючы ўсе спакусьлівыя й прынадныя прапановы чырвонага акупанта Беларусі вярнуцца на бацькаўшчыну.

Гэтаксама станоўка й адважна адмовіўся быў В. Захарка і ад супрацоўніцтва з Гітлераўскімі ўладамі, калі яны занялі Прагу й адшукалі яго ў ягоным ціхім кутку.

Як і Крэчэўскі, Захарка ў бядзе, у нястачы, на выгнаньні, — нясупынна змагаўся супраць усіх тых, хто чыніў крыўду Беларусі. У архівах, што засталіся па ягонай сьмерці, былі знойдзеныя гурбы копіяў розных актаў, пратэстаў, мэмар'ялаў, пісаных блізу на ўсіх эўрапэйскіх мовах і высыланых таксама блізу у ўсе гаспадарствы Эўропы.

В. Захарка на пятнаццаць год перажыў свайго папярэдніка й сябру у змаганьні за Беларусь — Пётру Крэчэўскага.

6-га сакавіка 1943 году, чуючы блізкую сьмерць, ён тэстамантам перадаў свае паўнамоцтвы сяньняшняму Старшыні Рады БНР і змагару за нашыя правы, Міколе Абрамчыку, а 14-га сакавіка аддаў усьцяж жывую, маладую й бунтарную, — дарма што састарэлае, хворае цела адмаўлялася служыць, — душу Богу.

Ледзь не на пярэдадні 25-ых угодкаў Сакавіковага Акту, які ён тварыў і за які 25 год змагаўся. В. Захарка быў пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе 19-га сакавіка 1943 году. Хавалі найвышэйшага прадстаўніка Беларускага Народу таксама, як ён і жыў — сьціпла, ціха, пад аховаю Гэстапа, якое забараніла нат прамовы над магілай, у нязвычайна цяжкім настроі.

А назаўтрае нямецкая цэнзура парупілася павыкідаць з нэкралёгаў, прысьвечаных памяці Нябожчыка й зьмешчаных на балонках беларускіх газэтаў усё, што сьветчыла аб адданасьці, аб змагарным жыцьці й нястомнай волі В. Захаркі. Але й бяз гэтага — усе шчырыя беларусы, верныя ідэі ды традыцыі 25-га Сакавіка нізка пахілілі галовы перад памёрлым беларускім дзяржаўным мужам.

Бо іменаў В. Захаркі й Пётры Крэчэўскага з памяці народнай ды з балонкаў нашае гісторыі не патрапіць выдзярці ніхто, ніякі акупант ці панявольнік, якога-б колеру ён ня быў!

А. К.

Доктар Тацяна Руткоўская — пляменьніца,
Беларускі Студэнцкі Ансамбль у Любэне,
Уладыка Васіль, Сакратар Сьв. Сыноду Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы,
Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі на Выгнаньні,
Цэнтраля Беларускіх Унівэрсытэцкіх арганізацыяў у Замежжы,
Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва,
Згуртаваньне Беларусаў у Бэльгіі,
Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Бэльгіі

**з глыбокім жалем паведамляюць, што**

**МІКОЛА РАВЕНСКІ**

Кампазытар і дырыгент Беларускага Студэнцкага Ансамблю ў Любэне,
Б. Выкладчык Менскае Кансэрваторыі,
Сябра Рады Беларускае Народнае Рэспублікі,
Сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,
Сябра Інтэрнацыянальнае Вольнае Акадэміі Навукі й Літаратуры,

**народжаны ў в. Засулі (Беларусь) 6-га сьнежня 1886 г.**

**ПАМЁР У ЛЮВЭНЕ 9 САКАВІКА 1953 ГОДУ,**
адбыўшы сьв. Споведзь і прыняўшы сьв. Прычасьце.

Паховіны адбыліся пасьля ўрачыстае Паніхіды ў Доме Беларускіх Студэнтаў 19, пляц Гэрбэрта Гувэра ў Любэне,

**У ЧАЦЬВЕР 12-ГА САКАВІКА у 13,30 пап.**

---

**Балюча адбілася ў нашых сэрцах вестка аб сьмерці нашага дарагога й слаўнага кампазытара й дырыгента хораў БАПЦарквы сьв. памяці**

**МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА**

**Вялікі, Богам дадзены талент свой, ён выкарыстаў на пашырэньне славы нашае беларускае песьні і, будучы глыбака-рэлігійным чалавекам, нязвычайна спрычыніўся да славы нашае сьв. БАПЦарквы сваімі натхнёнымі творамі, як гімн „Магутны Божа", „Верую" ды інш.**

**Няхай-жа Ён будзе ў славе ў Царстве Нябесным, як назаўсёды слаўным застанецца Ён у нашых сэрцах.**

**† ВАСІЛЬ**
**Япіскап БАПЦарквы**

---

**9 САКАВІКА 1953 ГОДУ**
**пасьля даўгой, цяжкой хваробы памёр у Любэне, Бэльгія,**

**МІКОЛА РАВЕНСКІ**

**народжаны 5 сьнежня 1886 г. ў Ігуменшчыне,**

**выдатны кампазытар і музыкавед, заслужаны працаўнік беларускай музыкі, дзейны сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,**
**аб чым з глыбокім сумам паведамляе**

**УПРАВА БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

---

**ГАЛОУНАЯ УПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ У ЗША**

выказвае свой шчыры жаль з прычыны перадчаснае сьмерці 9-га сакавіка г. г. ў Любэне (Бэльгія)
**кампазытара, пэдагога й дырыгента, сьв. памяці**

**МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА**

Нябожчык быў ціхім, але ахвярным і нястомным працаўніком на ніве беларускае культуры й пакінуў па сабе багатую спадчыну з галіны беларускае музыкі й песьні.

Няхай-жа лёгкай будзе яму чужая зямля, якая дала яму прытулак у апошнія гады ягонага жыцьця й вечны супачынак па сьмерці.

**Галоўная Управа БАЗА.**

---

**ГАЛОУНАЯ УПРАВА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ У АМЭРЫЦЫ**
**ад імя ўсіх сваіх сяброў выражае глыбокі жаль па страце дарагога настаўніка й вялікага прыяцеля беларускае моладзі сьвятое памяці кампазытара**

**МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА**

**Памяць аб ім будзе вечна жывая ў нашых сэрцах, як вечна жывыя будуць у нашым народзе ягоныя творы.**

**ГАЛОУНАЯ УПРАВА ЗБМА**

---

# З Беларускага Жыцьця

## Літоуская Рапсодыя

### (Цікавы рэфэрат БІН і М)

Гэтаму зусім мала ў нас ведамаму, але глыбокаму паводле зьместу й паводле свае трагічнае прост беларускасьці, твору памерлага яшчэ ў пачатках нашага стагодзьзя польскага кампазытара Мячыслава Карловіча — быў у аснаўным прысьвечаны, прачытаны 14-га сакавіка, рэфэрат М. Куліковіча.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, якому ляжыць на сэрцы выяўленьне й належнае насьветленьне ўсіх менш знаных нашаму грамадзтву, ды ня менш дзеля гэтага каштоўных твораў і беларускіх мастакоў і захопленых беларускімі тэмамі чужынцаў, — не памыліўся, наладзіўшы рэфэраг аб творчасьці нібы польскага, а на самай справе гэткага нашага кампазытара, як Карловіч.

Пачынаючы свой даклад, Камп. Куліковіч паведаміў сабраных аб перадчаснай сьмерці ў Бэльгіі шырака ведамага і на Бацькаўшчыне й на эміграцыі камп. Міколы Равенскага й папрасіў ушанаваць ягоную сьветлую памяць уставаньнем і часінаю цішы. Пасьля гэтага пачаўся даклад.

Як казаў рэфэрэнт, „лятуценьні аб сваім чароўным краю (Вялейшчына), ідэалізацыя яго, не пакідалі Карловіча ўсё жыцьцё й былі тым яскравейшыя й больш пачуцьцёвыя, чым далей быў ён ад свае ўлюбёнае „літоўскае зямлі".

Аб сваёй „Літоўскай Рапсодыі" сам Карловіч казаў гэтак:

— „Хацеў заклясьці ў ёй увесь сум, жаль і адвечную няволю таго народу, чые песьні зьвінелі мне ў маім маленстве".

На жаль, аўтар згаданага, вельмі цікавага рэфэрату, камп. Куліковіч, нідзе ў Нью-Ёрку ня мог дастаць нотаў Карловічавае „Літоўскае Рапсодыі" і таму зайграў слухачом толькі асноўную тэму гэтага твору, тую шырака ведамую, тыпова-беларускую сумную мэлёдыю пад назваю „Жніво", на якую пяецца ўлетку блізу скрозь на Беларусі, столькі прыгожых жніўных песьняў.

Таксама, трэба сказаць, на жаль, як на гэткі цікавы рэфэрат і добрую залю, — слухачоў было крыху замала. Даводзіцца толькі шкадаваць тых нашых людзей, а асабліва нашую інтэлігенцыю, якім праца на фабрыках і вечная стомленасьць, а мо й проста абыякавасьць, не дазваляюць браць належнага ўдзелу ў тутэйшым беларускім культурным жыцьці, у ладжаных гэтак часта сёлета нашых вечарох, дакладах ды інш. імпрэзах.

### ЗА СУПАКОЙ ДУШАУ НАШЫХ ДАРАГІХ ПАМЁРЛЫХ

У нядзелю 15-га сакавіка, а. С. Войтэнка адслужыў быў у БАП царкве ў Нью-Брансьвіку паніхіду за супакой душаў праф. Міколы Равенскага, што памёр кагадзе ў Любэне і Аўгені Кажан у першыя угодкі ейнае сьмерці, якія спаўняюцца гэтымі днямі.

Асабліва узрушыў прысутных момэнт, калі ў канцы паніхіды сьвятар запрапанаваў малельнікам засьпяваць разам рэлігійны гімн „Магутны Божа", несьмяротную музыку да якога стварыў нябожчык-кампазытар М. Равенскі.

Шмат хто з прысутных ня мог паўстрымаць сьлёзаў, калі да прастолу Усемагутнага паплылі словы й гукі гімну — як даніна таму й ад таго, хто яго стварыў і тэй, хто яго з гэткай любасьцяй сьпявала за жыцьця.

На працягу няпоўнага году ад нас адыйшлі навекі дзьве гэткія сьветлыя постаці, як праф. М. Равенскі і Аўгеня Кажан, але памяць аб іх застанецца назаўсёды ў нашых сэрцах.

Няхай ім будзе лёгкай чужая зямелька!

### ГАДАВАЯ СПРАВАЗДАЧА АДДЗЕЛУ БАЗА У КЛІУЛЭНДЗЕ

Беларуская калёнія ў Кліўлэндзе дасягла ў мінулым справаздачным годзе далейшых удачаў у сваёй нацыянальнай працы: больш зактывізавалася праца ейных арганізацыяў, павялічыўся склад сяброўства. У гэтым працэсе паўсталі дзьве новыя арганізацыі: Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў у Кліўлэндзе і Аддзел Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у ЗША.

Агулам трэба адзначыць, што 1952 год у Аддзеле Задзіночаньня мінуў пад знакам жывой, актыўнай і творчай працы. Галоўнымі праявамі гэтае працы ў галіне культурна-асьветнай і арганізацыйнай быў цэлы шэраг імпрэзаў, рэфэратаў ды выступленьняў, аб якіх ужо ці раз пісалася на балонках „Беларуса". Адным з паважных вынікаў гэтага было навязаньне сувязаў зь іншымі народамі й прапаганда, гэткім чынам, беларускае вызвольнае ідэі. Сувязі гэтыя ў справаздачным годзе значна пашырыліся і Аддзел Задзіночаньня ужо мае цясьнейшыя дачыненьні й супрацоўніцтва з украінцамі, казакамі, славакамі, летувісамі, харватамі, славэнцамі ды вугорцамі. Ён далей належыць да гарадзкой міжнацыянальнай арганізацыі, куды ўваходзяць арганізацыі 28 нацыянальнасьцяў гораду. Арганізацыя гэтая ад 1 сакавіка 1952 году пачала выдаваць свой друкаваны часапіс у ангельскай мове, дзе зьмяшчаюцца, побач зь іншымі, і інформацыі аб беларусах. У мясцовай амэрыканскай прэсе таксама было зьмешчана на працягу году 8 артыкулаў аб Беларусі, беларусох і працы Кліўлэндзкага Аддзелу БАЗА.

Добра працуе ў Кліўлэндзе й Аддзел Згуртаваньня Беларускае Моладзі, які налічвае 59 сяброў і які прыймаў самы актыўны ўдзел у ўсіх акадэміях, канцэртах, дапамаговай акцыі, ладжанай як ім самым, гэтак і іншымі арганізацыямі.

Галоўнымі недахопамі ў працы Аддзелу БАЗА Кліўлэнд ёсьць неакуратная аплата сяброўскіх складкаў (усяго за год сабрана 377 д. 50 цэн.), хоць на складаньне ахвяраў на канкрэтную мэту наракаць ня можна. Вялікай перашкодай у далейшым разьвіцьці працы — гэта недахоп інтэлігенцыі, асабліва рэгента, балетмайстра, кіраўніка драматычнага гуртка, культурнага рэфэрэнта й г. д. 15-га лютага 1953 году адбыўся Гадавы Сход Аддзелу. Сход заслухаў гадавую справаздачу зь дзейнасьці Аддзелу й іншых беларускіх арганізацыяў Кліўлэнду. Справаздачу склаў старшыня Управы А. Каханоўскі. Уступаючаму Ураду было выказанае абсалюторыюм з падзякай.

У новы Камітэт Аддзелу Задзіночаньня выбраны: А. Каханоўскі — старшыня, М. Шыкалюк — сакратар, Я. Раковіч — скарбнік, Ул. Дунец — кальпартэр бел. прэсы, А. Чэрнік і А. Кананчук — сябры.

### СТЫПЭНДЫІ БЕЛАРУСКІМ СТУДЭНТАМ.

**Як паведамляе Дырэктар Усходня-Эўрапэйскага Фонду, сп. Дэйвід Мунфорд, гэты Фонд будзе даваць стыпэндыі студэнтам беларускага і ўкраінскага паходжаньня, прыбылым нядаўна ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, як уцекачы із Савецкага Саюзу. Стыпэндыі гэтыя будуць на 1953-54 акадэміцкі год і пакрыюць усю, або частку аплаты за навуку.**

**Сп. Мунфорд сказаў, што Усходня-Эўрапэйскі Фонд быў заснаваны Фордавай Фундацыяй з агульнай мэтай помачы нядаўным уцекачом із Савецкага Саюзу дзеля прытарнаваньня іх і улучэньня у амэрыканскае жыцьцё. Праграма стыпэндыяў гэта адна зь дзейнасьцяў Фонду адумыслова вызначаная дапамагаць кваліфікаваным беларускім і ўкраінскім студэнтам з паміж гэтае групы ўцекачоў, вышэйшая асьвета якіх была перарваная ІІ-ой Сусьветнай Вайной.**

**Фонд абвесьціў, што будуць браныя на ўвагу гэткія кандыдаты на стыпэндыі: малодшыя 35 год, якія жывуць ў З.Ш.А.; тыя, што пакінулі сучасную тэрыторыю СССР пасьля 1939 г. і добра валодаюць ангельскай мовай; запісаныя або дапушчаныя да студыяў на амэрыканскіх унівэрсытэтах або высокіх тэхнічных школах. Тыя, што яшчэ не запісаныя, павінны падаць довад магчымасьці іх прыйма, каб магчы дастаць стыпэндыю. Фармуляры й далейшыя інфармацыі можна атрымаць пішучы — па ангельску — на адрыс: East European Fund, Inc., 10 East 44th Street, New York 17, N. Y.**

**„Студэнты, што маняцца прасіць стыпэндыі згодна з гэтай праграмай, павінны падаць фармуляры й іншыя патрэбныя дакумэнты да 20. красавіка 1953 г.", сказаў сп. Мунфорд. „Мы спадзяёмся, што будзем магчы абесьціць стыпэндыі на пачатку чырвеня".**

### ПАНІХІДА.

У нядзелю 22-га сакавіка пасьля літургіі, япіскап БАПЦ Ул. Васіль адслужыць у Царкве сьв. Тройцы, 435 Іст, 4-ая вул. у Нью-Ёрку паніхіду за супакой душы сьв. памяці кампазытара Міколы Равенскага, які памёр кагадзе ў Бэльгіі.

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ІНСТЫТУТУ.

У сувязі з тым, што чаргові рэфэрат Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва дыскусыйны вечар „Whiteruthenia ці Byelorussia" якраз прыпадае напярэдадні абыходу 25-га сакавіка, ён пераносіцца на пазьнейшы час. Аб дакладнай даце й месцы рэфэрату будзе пададзена асобна.

### НА „ЧЫРВОНАЕ ЯЕЧКА"

У адказ на заклік Аддзелу Сацыяльнае Апекі БАЗА, зьмешчаным у папярэднім нумары „Беларуса", ахвяраваць на „Чырвонае Вялікоднае Яечка" для нашых суродзічаў у Эўропе, ужо адгукнуліся, прысылаючы ахвяры, гэткія асобы:

Сп. С. Татарыновіч ............... 6,50 дал.
Сп. Б. Даніловіч ............... 2,50 дал.
Сп. А. Попка ............... 3,00 дал.
Сп. Д. Філановіч ............... 1,00 дал.
Сп. Жабік ............... 3,00 дал.
Сп. А. Стагановіч ............... $ 5,00
Сп.-ня. Я. Каханоўская ............... $ 10,50
(на тры пачкі)
Сп.-ня. Б. Вержбаловіч ............... $ 3,50
Сп. М. Казьлякоўскі ............... $ 3,50
Сп.-ства Ф. і Н. Кушэль ............... $ 5,00

Разам ............... $ 44,00

Апрача таго, Аддзел БАЗА Мэспэт, Нью-Ёрк, правёў зборку ахвяраў пад клічам „Дзеці — дзецям". У выніку — на „Чырвонае яечка" для беларускіх дзетак у Нямеччыне сабралі:

Ад Лілі Груша ............... $ 2,50
Ад Расьціслава Гарошкі ............... $ 2,50
Ад Валіка Гарошкі ............... $ 2,50
Ад Танічкі Заруцкай ............... $ 3,50
Ад Ніны Паньковай ............... $ 3,50
Ад Зоі Стаськевіч ............... $ 2,50
Ад Нікі Стаськевіча ............... $ 2,50

Разам ........ $ 19,50

Ад Тусі і Ул. Кушаляў ............... $ 2,50
Ад Іны Рыттэр ............... $ 3,50

З Мэспэту выслана да гэтага на ймя Беларускага Камітэту ў Нямеччыне яшчэ й гэткія ахвяры:

Ад спадарства Савёнкаў ............ $ 3,50
Ад спадарства Арцюхоў ............ $ 5,00

### НАШЫЯ ДЗЕЦІ.

Малыя беларускі й беларусы, якія жывуць ня Мэспэце, шчыра й па сваёй ахвоце адгукнуліся на заклік Рэфэрэнта Аддзелу Сацыяльнае Апекі БАЗА, зьмешчаным у папярэднім нумары газэты.

На Мэспэце гэткіх малых, ахвярных беларускаў ды беларусаў сямёра й кожны зь іх ахвяраваў грошы на адну пачку. Найстарэйшыя зь іх, — Ніна Панькова, Славік і Валік Гарошкі, Зоя Стаськевіч, Ліля Груша нарадзіліся на Бацькаўшчыне й крыху яшчэ памятаюць яе. Успаміны аб ёй не патрапілі засьціць ім ні ўсе жахі й пакуты мінулае вайны, ні уцёкі, ні цяжкое жыцьцё у Нямеччыне, ні гады, пражытыя ў лягерох... Аднак, гэтыя якраз гады, як параўнальна нядаўныя, яны найлепш памятаюць, а таму добра разумеюць сваіх менш шчасьлівых сяброў, якіх лёс пакінуў у Нямеччыне.

Але не засталіся за старэйшымі што да ахвярнасьці й нашыя малыя — Ніка Стаськевіч, які нарадзіўся ўжо ў лягеры й „амэрыканка" — Таня Заруцкая.

Гэтыя малыя з радасьцяй ахвяроўвалі свае ашчаднасьці, вытрасаючы іх з розных пузатых „сьвінкаў" ды іншых падобных сховішчаў на скарбы. Яны спадзяюцца, што й беларускія дзеці, якія жывуць на Брукліне, у Нью-Ёрку, Саўт-Рывэры ды інш. мястох і мястэчках Задзіночаных Штатаў, таксама возьмуць удзел у акцыі дапамогі й беларускім дзецям, і іхным бацьком у Нямеччыне, ды наагул Эўропе.

### ГРОШЫ НА „БЕЛАРУСА" ПРЫСЛАЛІ:

Сп. Кажура (за кальпартаж) .... 15 дал.
Сп. С. Хмара ............... 2 дал.
Сп. Вярбіцкі ............... 2,50
Сп. Філіповіч ............... 1 дал.
Сп. Карніловіч ............... 10 дал.

Разам............... $ 30.50

### У ФОНД ПАБУДОВЫ БЕЛАРУСКАГА ДОМУ ПАСТУПІЛІ:

**Ад Я. Менскага ............... 50 дал.**
**Ад сп-ні Іны Рыттэр ............... 50 дал.**
**Ад сп-ні К. Тумаш ............... 50 дал.**

**Разам ........... 150 дал.**
**З папярэднімі ............... 1235 дал.**

---